Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

7 - 13 ЖНІЎНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№32 (172)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Сямёра ўтапілася за тры дні

За мінулыя выхадныя і панядзелак утапілася 7 чалавек. Трагедыі здарыліся ў вадаёмах ля прыпынка Крыніца, Селівонаўкі, Краснага, Мыслевічаў, Пятроўшчыны.

У Крыніцы ўтапіўся 38–гадовы вайсковы пенсіянер, былы марак, спартсмен. Па словах сведкаў, быў цвярозы. Плыў па паверхні і раптам знік. Сяльчане кінуліся выратоўваць, але толькі на наступны дзень вадалазы выцягнулі цела.

У Селівонаўцы чыгуначнікі адзначылі сваё прафесійнае свята. Трое мужчын разам зайшлі ў ваду і ўжо не выйшлі. Як сказаў старшыня райгарсавета таварыства выратавання на водах **Віталь Чарнушэвіч**, сёлета за купальны сезон патонула 11 чалавек. З іх 6–гадовы хлопчык і 12–гадовая дзяўчынка. Па смяротных паказчыках самыя небяспечныя вадаёмы ў Насілаве, Мароськах, Вялікім Сяле, Вілія. Асноўная прычына трагедыі – п'янства.

*Васіль САВІЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

### РУР для Пяршаяў

Цяпер не толькі ў райцэнтры можна праверыць прадукты на забруджанасць радыенуклідамі. Спецыяльны прыбор РУР–92 для гэтых мэтаў атрымаў цэнтр сацыяльна–псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва ў Пяршаях.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

АСТРАВЕЦ

### Градзенчукі наслядзілі

Некалькі дзён у райцэнтры гасцявалі спецыялісты з аб'яднання «Гроднааблдарбуд» са спецыяльнай машынай. За гэты час яны паспелі «наслядзіць» не толькі ў Астраўцы, але і на дарогах раёна.

Задачу па нанясенні раздзяляльных ліній, пешаходных пераходаў і іншай дарожнай атрыбутыкі выканалі выдатна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

### Па дзве піва- і танцы да раніцы

У мінулыя выхадныя прайшло традыцыйнае свята ўраджаю ў дачных таварыствах, што пад Маркоўцамі. Цудоўнае надвор'е спрыяла добраму настрою дачнікаў, азарту каманд, якія спаборнічалі за гонар звацца больш вынаходлівымі, дужэйшымі, весялейшымі. Найбольш эмоцый прыйшлося на спартыўныя спаборніцтвы, дзе перамагла каманда «Будаўнік». Пераможцы атрымалі па 2 бутэлькі піва кожны.

Завяршылася свята танцамі да раніцы. Працавалі гандлёвыя пункты.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Станкабудаўнікі пайшлі ў адрыў

У гарвыканкоме падвялі вынікі эканамічнага спаборніцтва сярод прамысловых прадпрыемстваў і прадпрыемстваў сферы бытавога абслугоўвання горада. З вытворцаў адзначылі АТ "Струм", завод парашковай металургіі, ТАА "БелХол". Крыху адсталі ЗЛМК і ВВА "БелТІЗ".

Прадпрыемствы, што маюць запазычанасць па зарплаце, энерганосьбітах, плацяжах у бюджэт ці знізілі аб'ёмы вытворчасці, выбываюць са спаборніцтва. Гэта датычыцца ВА "Электрамодуль", станкабудаўнічага завода, фабрыкі музычных інструментаў, завода металавырабаў.

У бытавікоў лідзіруюць дзяржаўныя прадпрыемствы "Хімчыстка" (дырэктар **В. Грыневіч**), "Маладзечнабыт" (**Л. Белашова**), арэндны завод "Рамбыттэхніка" (**П. Сысун**).

Намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** гаворыць, што каля 100 прадпрыемстваў працуюць стратна. Самыя высокія страты ў станкабудаўнічага завода.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

СМАРГОНЬ

### Новыя аўтаматы

На заводзе аптычнага станкабудавання асвоены выпуск 4-пазіцыйнага этыкетыровачнага апарата, які прызначаны для наклейвання этыкетак на бутэлькі.

Хаця па некаторых параметрах ён саступае італьянскім і нямецкім аналагам, патэнцыяльныя пакупнікі аддаюць перавагу смаргонскаму. Калі той выходзіць са строю, то адрамантаваць можна хутка і танна. Да таго ж, цана новага апарата на некалькі дзесяткаў тысяч долараў меншая за замежныя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

### Для багатых

Керамічныя каміны "Папараць–кветка" пачаў выпускаць Івянецкі завод мастацкай керамікі. "Кветка" яскрава афармленая і прызначаная пераважна для кватэр «новых беларусаў».

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

АСТРАВЕЦ

### Будуць вучыць па-новым

У СШ №2 у новым навучальным годзе плануецца адкрыць першы эксперыментальны клас. Дзеці ў ім будуць навучацца па новай праграме «Крок за крокам».

Ад таго, як удала ён пройдзе, залежыць, ці будуць у іншых школах раёна пераходзіць на навучанне па гэтай праграме.

Настаўніца эксперыментальнага класа **Таццяна Ластоўская** пабывала на семінары, які праводзіла міністэрства адукацыі сумесна з амерыканскімі трэнерамі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯСТЭЧКІ

## Жыве Ілья на ўцеху праpоку

***ВІЛЕЙКА. Можа, сапраўды прарок Ілья аберагае гэтае месца. Ураганы тут ператвараюцца ў лёгкія ветрыкі, дзесяцілітровае вядро напаўняецца чарніцамі за паўгадзіны. Не бывае вялікіх пажараў, паводак. А насельніцтва звычайна жадае адзін аднаму "многа хлеба і грошай".***



*У крыжовым ходзе да брацкай магілы ідуць дзевяць Вікторый, вучаніц першага класа.*

Мястэчка Ілья стаіць на беразе ракі з сугучным найменнем - Іліі. На дзень свайго заступніка яшчэ зранку да Свята–Ільінскай царквы з'ехаўся народ з бліжэйшых вёсак – Абадоўцаў, Баяр, Суднікоў... На конях, роварах, машынах. Большасць жа дабіралася пешшу.

Пасля службы айцец Георгій арганізаваў крыжовы ход да брацкай магілы загінуўшых партызан. Тут, недалёка ад Навасёлак, падчас Другой Сусветнай знаходзілася база партызанскай брыгады імя Фрунзе. Школьнікі аднавілі зямлянкі. Легендарныя месцы, магілу наведваюць родныя ахвяр. Былі яны ля абеліска і цяпер.

Ілья – былы раённы цэнтр, каля 2 тысяч насельніцтва. Адныя працуюць у калгасе "Абадоўцы", іншыя на хлебазаводзе, у цэху па перапрацоўцы драўніны. Шмат інтэлігенцыі – тут ёсць сельгастэхнікум, школа, бальніца. Багата людзей адзінокіх і сасатрэлых.

**Кацярыне Карповіч** 82. Свята Ільі адзначае штогод. Моліцца праpоку, каб даў сілы – жыве адна, трымае гаспадарку. Каралевай прыгажосці назваў яе кіраўнік тэатра–студыі "Землякі" **Валерый Скаражонак**. Падчас канцэрта студыйцаў у доме культуры бабуля спрабавала танчыць, нібы ў часы маладосці і гаварыла, што ёй толькі 57. Што ж, чалавеку столькі год, на колькі ён сябе адчувае.

– Такіх бабуль у нас многа, – гаворыць старшыня сельвыканкома **Галіна Кутас**, – на тэрыторыі выканкома 28 вёсак. Каб у дапамозе старым была нейкая сістэма, стварылі гасразліковае звяно. Шасцёра работнікаў пад заказ возяць вяскоўцам дровы, пілуюць іх, рамантуюць печы.

Галіна працуе старшынёй дзесяць гадоў. Па яе ініцыятыве свята Іллі-прарока адзначаецца разам са святам мястэчка. Заўсёды з канцэртам, масавымі гуляннямі.

*Заканчэнне на 2-й старонцы.*

КАНІКУЛЫ

## Каця, Муся і Дусік

***Для жыхароў вёскі Некасецк Лявона і Лідзіі Апановічаў самыя прыгожыя дзяўчынкі – іх унучкі, якія жывуць і вучацца ў Мінску. Каця займаецца ў 7 класе СШ №50.***

На канікулах падзялілася сваімі планамі на будучае:

– Хачу быць урачом. Толькі якім? Лячыць людзей ці жывёлу.

Каця дома трымае хамячкоў. Аднойчы аднакласніца Даша Чэлубяева падарыла ручных дэкаратыўных пацукоў – Мусю і Дусіка. Дзяўчынка навучылася даглядаць экзатычных жывёлін.

– Усё ядуць, апетыт выдатны, непераборлівыя, – кажа Каця.

Дзяўчынка–мінчанка на лета завітала да дзядулі і бабулі ў іх родную вёску, дзе нарадзіўся бацька. Прывезла пацучкоў. Дзядуля і бабуля жахнуліся: сваіх грызуноў хапае ў вараўні, хляве, а тут яшчэ.

Муся і Дусік па–свойму фокуснічаюць: бегаюць па руках, нагах, залазяць на галаву, у рукавы світэра. Змірыліся з усім гэтым дзядуля і бабуля.

Каця – вельмі прыязная, гаваркая дзяўчынка. Расказвае пра Мінск, школу. Ведае і наваколле, куды прыязджае адпачываць, уважліва слухае старэйшых пра мінулыя падзеі.



ФОТА МІХАІЛА ЧАРНЯЎСКАГА.

## Санэпід інфармуе

■ Як паведаміў галоўны урач Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Віктар БЕЛІК**, за тыдзень з 27 ліпеня па 1 жніўня ў Маладзечне і раёне па першасных дыягназах зарэгістравана: 18 хворых на вострыя кішэчныя інфекцыі, у т. л. 10 дзяцей, на вірусны гепатыт "А" – 2, туберкулёз – 6, педыкулёз (вашывасць) – 10, звярнуліся за медапамогай 11 чалавек, пакусаных бадзяжнымі сабакамі. З іх па горадзе 5 дзяцей і 4 дарослыя. Гэта выклікае асаблівую заклапочанасць, таму што ВА "Камунальнік" пастаянна дае справаздачу па адлове бадзяжных жывёл, аднак іх колькасць у Маладзечне расце.

■ У лабараторыях цэнтра на адпаведнасць паказчыкам бяспечнасці даследавана 14 узораў кілбасных вырабаў, 36 кандытарскіх вырабаў, 10 безалкагольных напіткаў, 6 макаронных вырабаў, 3 рыбапрадуктаў. Усе адпавядалі ўстаноўленым нарматывам. Даследавана 81 проба вады, у т. л. 30 з гарадскога водаправода, усе адпавядалі нарматывам. Вада з шахтавых калодзежаў па вул. В. Харужай не адпавядала якасці па бакпаказчыках і ўтрыманню нітратаў. Па бактэрыялагічных паказчыках нездавальняючыя 2 пробы вады з Ушы, у раёне пляжа і маста.

■ У радыелагічную лабараторыю насельніцтвам дастаўлена 68 узораў для вызначэння утрымання радыенуклідаў цэзія–137, у 20 пробах грыбоў выяўлена перавышэнне РДУ–96 (Рэспубліканскіх дапушчальных узроўняў, 1996 г.). У асноўным, гэта курачкі, сушаныя баравікі і махавікі, сабраныя ля Прудоў, Самалёў, Заскавічаў Маладзечанскага раёна, вёсак Сосенка, Даманава, Чарчонава, Глінnae, Ілья Вілейскага раёна.

***Каб упэўніцца ў бяспечнасці дароў лесу, звяртайцеся за бясплатнымі даследаваннямі ў райЦГіЭ. Для гэтага неабходна прадаставіць пробу па аб'ёме не менш за 1 л.***

■ За парушэнні санітарных нормаў і правілаў накладзена 7 адміністрацыйных штрафаў, у т. л. прадпрымальніку Л. П. Камер і нам. дырэктара магазіна №60 АРЗ чыгункі за парушэнні правілаў на калгасным рынку; галоўнаму інжынеру ФАК ВА "Камунальнік" за нездавальняючы сантэхстан лазняў.

СТАРЫ АЛЬБОМ


ФОТА З АЛЬБОМА МІХАСЯ КАЗЛОЎСКАГА

Радашковічы, пачатак 20-х гадоў. Ураджэнец Вілейкі сянатар Аляксандр Уласаў (апошні рад, у белай сарочцы, без пінжака) сфатаграфаваўся з групай беларускіх дзеячоў і вучнямі Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны. Тут можна пазнаць твары Язэпа Гаўрыліка, Веру Сітку (Тарашкевіч), Міколу Абрамчыка, Фелікса Стацкевіча (дырэктара гэтай вучэльні), Сымона Караля.

Беларускае адраджэнне ў Заходняй Беларусі мела шматнацыянальны характар. Вучні беларускай гімназіі былі ў большасці сваёй дзецьмі з яўрэйскіх сем'яў з навакольных і аддаленых мястэчак.

КУЛЬТУРА

## Падарунак - ваза

ВАЛОЖЫН. Прадавец магазіна "Кнігі" Таццяна Шакун і яе калега з аддзела адзення ўнівермага Алена Хількевіч удала выступілі ў абласным конкурсе "Лепшы па прафесіі". Таццяну за другое месца ўзнагародзілі хрустальнай вазай.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Ручнікі ад Марыі

ВАЛОЖЫН. На рэспубліканскім фестывалі народных умельцаў "Жывыя крыніцы" поспех мела ткачыха з Івянца Марыя Сасонка. Яе ручнікі адзначылі дыпломам фестывалю і грашовай прэміяй.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## Полька беларуская

ВАЛОЖЫН. Юныя танцоры з Івянца ў Польшчы прайшлі курс навучання тамтэйшым нацыянальным танцам і ўразілі ўсіх беларускай "полькай". Трохтыднёвая паездка з удзелам у міжнародным фестывалі стала магчымай, дзякуючы фінансавай падтрымцы гродзенскага аддзялення Саюза палякаў.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

## Здымаецца фільм пра Уласава

МАЛАДЗЕЧНА. У Мігаўцы і Радашковічах прайшлі здымкі тэлематэрыялаў для праграмы пра **Аляксандра Мікітавіча Уласава**, віднага беларускага грамадскага дзеяча, першага рэдактара "Нашай Нівы" 1905–08, які быў арыштаваны і расстраляны ў 40–х гадах (глядзі сённяшні «Стары альбом»).

У здымках удзельнічалі **Ірына Ніжанкоўская**, унучка сястры А. Уласава, і старэйшыя жыхары вёскі Мігаўка **Міхаіл Шнэйдэр і Вера Галубовіч.** Аўтар праграмы – пісьменнік **Уладзімір Содаль**. Выхад праграмы ў эфір на БТ чакаецца ў канцы верасня.

*Мікола ЛІННІК.*



ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ

## Агністая мяжа

*Тут некалі*
*на Мядзельшчыне ціхай*
*Праходзіла агністая мяжа.*
*М. Дукса*

Першая Сусветная вайна ў 1915 годзе дакацілася да Нарачы, пакінула крывавы тут свой след. Фронт прастаяў тры гады. Тысячы і тысячы салдатаў памерлі не толькі ад куль і асколкаў, але і ад газу, які немцы прымянілі ў сакавіку 1916. Дзесяць дзён руская армія штурмавала бетонныя ўмацаванні немцаў, выручаючы тым самым сваіх саюзнікаў–французаў. Пісьменнік В. Пікуль пісаў: "Узялі 10 вёрст, кожная вярста абышлася ў 7800 жыццяў... Гэтыя жыцці патанулі ў крыві і нарачанскіх балотах".

У першы дзень наступлення – 18 сакавіка 1916 года – у 22–й пяхотнай дывізіі было забіта 49 афіцэраў і 5547 салдатаў.

У гэтай сусветнай бойцы былі і жыхары Мядзельшчыны. **Пётр Шаранговіч** камандаваў узводам, узнагароджаны ордэнам Станіслава і Ганны III ступені (пасля грамадзянскай вайны працаваў ў Акадэміі Генеральнага штаба Чырвонай Арміі, знішчаны сталінска–берыеўскімі жорнамі). Яго зямляк з Качаноў **Васіль Шаранговіч** арганізоўваў партызанскія групы ў тыле немцаў (быў потым першым сакратаром ЦК ВКП(б)Б, расстраляны ў 1937 г. як вораг народа, цяпер рэабілітаваны).

**Андрэй Кайко** з в. Азаркі загінуў у бai ля сваёй вёскі. **Стэфан Будзько** з в. Зарэчная пацярпеў падчас нямецкай газавай атакі, лячыўся ў вайсковым лазарэце.

Высокую ўзнагароду – Георгіеўскі Крыж – атрымаў ураджэнец в. Задубенне **Аляксандр Аксюта**. Ён жа быў удзельнікам і Другой Сусветнай вайны.

Перад Першай Сусветнай вайной вучыўся ў Мядзеле будучы беларускі пісьменнік **Уладзімір Дубоўка.** Свае адносіны да вайны ён уклаў у вусны маці (у кнізе "Пялёсткі"), якая гаварыла: "А ты думаеш, што іхнія салдаты не такія людзі, як нашыя? Яны ж і працуюць, і гаспадаркай займаюцца. А тыя правіцелі не падзеляць якое ліха, дык ваяваць. Латва ім ваяваць, чужыя галовы падстаўляць. А трэба так: пасварыліся цары–каралі? Калі ласка! Выходзьце на нашы Стажкі, станьце адзін супраць аднаго і ваюйце, колькі вам згодна. Запэўніваю, што пасля першай бойкі яны страцілі б апетыт да вайны!..

Словы жанчыны вельмі актуальныя сёння!

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*


*На беразе Нарачы і сёння можна сустрэць нямецкія доты з часоў першай сусветнай.*
ФОТА АЎТАРА.

СВЯТА

## Жыве Ілья...

*Заканчэнне, пачатак на 1-й ст.*

На свяце намеснік дырэктара сельгастэхнікума **Святлана Несцяровіч** частавала кавай з плюшкамі. Ільянцы па ўсёй акрузе славяцца прыгатаваннем гэтага напою. А мясцовыя плюшкі вядомыя як самыя смачныя на Вілейшчыне.

У крыжовым ходзе дзеці з кветкамі, узяўшыся за рукі, крочылі да абеліска. З 9 дзяўчынак чатырох клічуць Вікторыямі. Гэта самае распаўсюджанае імя. Хаця апошнім часам імёны немаўляткам даюць па рэлігійным календары.

Ля царквы шмат моладзі. Кожная другая пара, акрамя рэгістрацыі ў выканкоме, праходзіць праз вянчанне ў царкве. Дарэчы, і ў грамадзянскім абрадзе ёсць свае адметныя мясцовыя рысы. Цырымонію вядуць па–беларуску, і маладыя абавязкова становяцца на ручнік – "на ручнік стаць, каб да смерці кахаць".

А прарок Ілля і на гэты раз з надвор'ем не падвёў. Праўда, нягледзячы на ўсе забабоны, многія пасля свята пайшлі на рэчку купацца.

*Васіль САВІЦКІ.*




ФОТА АЎТАРА.
*Айцец Георгій.*



ДАРОГІ

## Грошы разляцеліся па вуліцах

***МАЛАДЗЕЧНА. Адно з самых балючых месцаў – стан дарог ("РГ" аб гэтым пісала). Некаторыя дарогі рамантуюцца, іншыя ў ямах не адзін год. Намеснік кіраўніка ВА "Камунальнік" Павел Гаськоў тлумачыць сітуацыю.***

– Самыя запушчаныя дарогі на Лясных. Быў час, калі штогод праводзілася асфальтаванне 2–х, 3–х вуліц у прыватным сектары. Цяпер зусім іншыя часы і магчымасці. Заасфальтаваць «з нуля» адзін квадратны метр каштуе 2,5 мільёна. Асфальт пакласці на асфальт – 1 мільён 200 тысяч.

***– Колькі трэба грошай, каб навесці ў горадзе глянец?***

– Сотні мільярдаў. Пакуль запланавана зрабіць капітальны рамонт аб'ектаў гарадскога добраўпарадкавання (вуліц, тратуараў, каналізацыі) на 24 мільярды. Сёння выканана работ на 7 мільярдаў. Прычым з некаторымі падрадчыкамі яшчэ поўнасцю не разлічыліся.

У раёне станказавода працуем у завулку Зялёным, падсыпалі вул. Зарэчную. У раёне стадыёна былога ДТСААФ – Калядную, Міцкевіча. Правялі ямачны рамонт па вул. Веры Харэвіч, Маладзёжнай, завулку Асіпенкі, часткова па Вялікасельскай. Там на самым разбітым участку (ад аўтапарка №4 да грузавога аўтапарка) будзем рабіць ліўневую каналізацыю. А потым ужо пакладзем асфальт.

***– Акрамя дарог, што яшчэ патрабуе аператыўнага ўмяшання?***

– Аўтобусныя прыпынкі. Яшчэ раз да асенніх дажджоў іх адрамантуем. 170 мільёнаў каштуе новы прыпынак ля друкарні. Паглядзіце, што пасажыры з ім зрабілі. Таксама будзем добраўпарадкаваць Старое Места, а то выглядае, як пустка ў правінцыйным горадку.

*Васіль САВІЦКІ.*


ФОТА АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА.

*САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА*

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-31.*

## Грэчаская праваслаўная царква

***Гэта частка епархіі, цэнтр у Канстанцінопалі (расійскі Алексій мае сваю геатэрыторыю , за якую адказны). Хаця праваслаўе займае другое месца ў хрысціянскім свеце па колькасці прыхільнікаў, у ЗША гэта адна з самых малых рэлігійных супольнасцей.***

Будынак царквы святога Джона ўражвае адразу. Мала таго, што звонку будынак мае вельмі прывабны свецкі выгляд, дык у сярэдзіне адразу відаць лаўкі і чуваць арган.

Дзед айца Пятра прыехаў сюды з Грэцыі яшчэ ў 1915. Заснавалі царкву грэкі, балгары, рускія. Пра лаўкі ў царкве свяшчэннік сказаў так:

– Гэта пратэстанцкі феномен.

Потым даведаліся, што праваслаўныя выкупілі гэты будынак. Вітражы, арган ды лаўкі засталіся, але з'явіўся іконастас, павесілі вернікі свае іконы.

Але цікавей было даведацца пра стасункі з праваслаўем былога СССР.

– Апошнім часам не самыя лепшыя,– сумнавата адказаў айцец.– Паказальна, прыкладам, што Эстонія папрасілася ў Канстанцінопаль, а не ў Маскву. Мусіла адбыцца сустрэча Алексія з патрыярхам канстанцінопальскім Барталам'ю, але расійскі патрыярх павёў сябе агрэсіўна, нават у размове меў прэтэнзію на лідэрства ("Абмяркоўваць будзем толькі гэта, і я ведаю, як гэта зрабіць"), таму спатканне не атрымалася.

Нам расказалі, што па кнігах "грэкаў" патрыярх канстанцінопальскі – роўны сярод роўных. Алексій не меў маральнага права на нейкае першынство.

– Асабіста я не знаёмы з "вашым" Філарэтам, але мы – адна царква. Таму ў выпадках з Алексіем, да прыкладу, бачу толькі канфлікт лідэраў.

Не думаю, што айцец быў занадта дыпламатычны ў гэтых словах. У адрозненне ад служыцеляў праваслаўя Беларусі і Расіі, іхнія свяшчэннікі талерантныя, абвінавачваннямі не кідаюцца, нават прэтэнзій не маюць

Немалаважная дэталь: каля трэці прыхаджанаў гэтай царквы ў Дэ Мойне прыйшлі ў праваслаўе з іншых рэлігій. На першы погляд, прычыны розныя – прыйшлі пасля шлюбу ўслед за жонкай (мужам), адкрылі для сябе (з'явілася тут праваслаўе параўнальна нядаўна), бывае, што пераходзяць разам са свяшчэннікам. Аднак навідавоку, што людзі цягнуцца сюды не па модзе ці з кан'юнктуры, як бывае ў нас, а прыходзяць да нармальнага свяшчэнніка, бачаць у царкве абаронцу.

Наогул, на тэму "Царква і грамадства" варта пагаварыць падрабязней.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 29.07 | 5.08 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 104,8 | **105,8** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 370 | **370** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 98,2 | **98,2** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 50 | **50** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **32,5** |
| Цукар | 1 кг | 28,3 | **28,8** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 71 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25,5 | **25,5** |
| Маянэз | 250 г | 24 | **25** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 76 | **76** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 30 | **28** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 33 | **33** |
| Лімоны | 1кг | 65 | **74** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 40 | **50** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **30** |
| Малако | 1 л | 10 | **9** |
| Бульба свежая | 1 кг | 12 | **10** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **30** |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ*

*ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА*

## Млын з аўтабазы

ВАЛОЖЫН. Вальцовы млын запрацаваў у Гародзьках. Яго вытворчая магутнасць 15 тон мукі ў суткі. Першую партыю збожжа, 35 тон, завез калгас "Багданаўскі" у абмен на паліва. Млын пабудаваны на аўтабазе прадпрыемства "Лукойл–Валожын".

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Дом на вываз

ВАЛОЖЫН. Прадстаўнікі галандскай фірмы "CATUM" наведалі райцэнтр. Гасцей зацікавілі камплекты дачных домікаў, якія выпрабляе лясгас.

***Ларыса КАРНЕЕВА.***

*КРЫМІНАЛ*

## Мытнік скраў пракладкі «Allways»

АСТРАВЕЦ. Нядаўна адзін з супрацоўнікаў Ашмянскай мытні ўкраў на складзе-сховішчы канфіскаваныя таварна-матэрыяльныя каштоўнасці на суму ў 12 мільёнаў рублёў. Імі аказаліся гігіенічныя пракладкі «Allways». З крыльцамі. Узбуджаная крымінальная справа.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

*ЧЫТАЧ МЯРКУЕ*

## Права на абавязак

***Мы так многа гаворым, пішам апошнія гады аб правах, свабодзе, што неяк зусім зніклі паняцці абавязкаў, адказнасці. На падставе «Дэкларацыі аб правах чалавека» створаныя і прынятыя Канстытуцыі многіх дзяржаў, у тым ліку і нашай Рэспублікі.***

Некалькі год таму ў тэлевізійнай перадачы задавалі пытанне - што значыць для вас свабода? Ніхто нічога не сказаў пра асабістую адказнасць.

Прайшоў час, стала зразумелым, што замоўчванне аб адказнасці не выпадковае. Вынікі кіравання дзяржавай гэтымі спецыялістамі бачныя кожнаму.

У дэкларацыі пад паняццем «Чалавек» ці мелася на ўвазе млекакормячае з безразмерным спажывальніцтвам, эгаізмам, абыякавасцю да ўсяго Сусвету?

Свабода волі, якая ёсць у адзінага млекакормячага - чалавека - ці выключае адказнасць за свае ўчынкі, думкі, абавязкі перад сабе падобнымі, Прыродай? Напэўна, ёсць закон Сусвету - чым большымі правамі, свабодамі мы карыстаемся, тым большая наша адказнасць. Невыкананне гэтага закону выклікае, як у некаторых асоб, так і ў дзяржаў, масу непрыемнасцяў: ад хвароб да прыродных катастроф.

Час прыняць «Дэкларацыю адказнасці Чалавека», калі мы хочам жыць людзьмі.

***Віктар УЛАСЕНКА,***
***дэпутат Вярхоўнага Савета XXII склікання,***
***Маладзечна***

## Калекцыянеры на рынку

АСТРАВЕЦ. Пачатак тыдня для наведвальнікаў мясцовага рынку аказаўся крыху незвычайным: сюды завіталі прадстаўнікі Гродзенскага абласнога клуба калекцыянераў.

У асноўным, яны купляюць манеты часоў Савецкага Саюза, а таксама фотаздымкі да 1939 года. Знайшліся і тыя, у каго гэтага багацця хапае.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

## Сюрпрыз ад марожаншчыка

МАЛАДЗЕЧНА. Шакаладнае марожанае ў шакаладнай паліве - сама смаката. А калі вы ў гандляра дваццаты або, напрыклад, трыццаты, вас абавязкова прэміруюць яшчэ і шакаладнай цукеркай! Чым жыццё не мёд?

Такія вось сюрпрызы на калгасным рынку можна атрымаць ад марожаншчыка ля ўвахода на базар.

***Вінцэсь ПУХ.***

## Змяніў гаспадара

ВІЛЕЙКА. Магазін па Чырвонаармейскай, 55 быў куплены мінскай фірмай "Трыкатажгандаль" за 450 мільёнаў рублёў. Дзяржаўны магазін аднойчы памяняў назву і пашырыў асартымент – з дзяржаўнага гаспадарчага ператварыўся ў прыватны «камерцыйны». Цяпер новыя гаспадары памяшканні магазіна рамантуюць. А гандаль тут будзе весціся швейнымі вырабамі, галантарэяй, парфумай.

***Аддзел інфармацыі.***

*ГАРАДЖАНЕ*

# Вялікаселец - гучыць горда

***МАЛАДЗЕЧНА. Чатыры гады, як "вялікасельцы" сталі гараджанамі: іх мікраараён увайшоў у склад горада. А да таго была вёска Вялікае Сяло Цюрлёўскага сельсавета (не блытайце з аднайменнай вёскай у Палачанскім сельскім Савеце).***

Праўда, акрамя адзнакі ў пашпарце, нічога ў жыцці людзей не змянілася. Як трымалі жыхары прыватных дамоў (іх большасць) кароў, свіней, так і трымаюць. Што там прыватнікі, калі насельнікі шматпавярховак з вуліцы Маладзёжнай паўціскалі кабанчыкаў у цесныя гаражы. А адзін гаспадар паставіў там каня. І пеўні тут раніцой наваколле будзяць.

– Я балкон абмярала, думала, як бы кароўку на ім размясціць, ды не ўлезе! – зразумей, жартам ці ўсур'ёз дзялілася сваімі намерамі з суседкамі **Марыя Мяцельская.**

Люд у Вялікім Сяле, у большасці сваёй, просты, рабочы і не вельмі заможны. Таму зямля тут не прастойвае – усё, што можна, выкарыстоўваецца пад агароды. Багацейшыя ў мікраараёне доўга не затрымліваюцца, мяняюцца на цэнтр. Праўда, за апошнія гады на былым аэрадроме вырас гарадок цагляных катэджаў, але пакуль ён без людзей – не падводзяць ваду, асвятленне. Няма сродкаў.

Вуліца Маладзёжная пачынаецца панельнымі трохпавярхоўкамі – паселішча меліяратараў з ПМК–32. Гэтыя дамы (якія не надта ўпісваюцца ў наваколле), магазін, дзіцячы садок, інтэрнат, свае адміністрацыйныя будынкі калона ўзвяла ў 70–80 гады, час свайго росквіту. Пры гэтым асушыла балота.

– Цяпер утрыманне жылых дамоў цягне нас каменем на дно, – не ўтойвае праблем дырэктар ПМК–32, меліяратар з 30–гадовым стажам **Уладзімір Курсакоў**.

ВА "Камунальнік" на свой баланс трохпавярхоўкі без капітальнага рамонту браць не хоча. А сваіх сродкаў у ПМК няма. Жыхарам больш новых дамоў пашчасціла: нерухомасць камунальнікі ўзялі на абслугоўванне. Таму зімой у кватэрах цёпла, ды і ёсць куды звярнуцца, калі сантэхніка пацячэ. А наогул у мікраараёне 3–, 5–павярхоўкі стаяць на балансе аж чатырох арганізацый і ўстаноў.

Астравок культуры – раённая дзіцячая бібліятэка. Дзятве шанцуе – тут не толькі багаты кніжны фонд, але і прафесійныя работнікі. Яны і ў школу завітаюць, і ў тэатр з дзецьмі пагуляюць. Між іншым, сын загадчыцы бібліятэкі Рэгіны Клімашэўскай абраў прафесію бібліятэкара, адзін сярод дзяўчат свайго курса вучыцца ва ўніверсітэце культуры.

Дзеці ж з Вялікага Сяла, у асноўным, вучацца па беларускіх букварах, бо наведваюць СШ №1, да якой можна і пешшу дайсці. Школа па–ранейшым працуе на роднай мове і не імкнецца ствараць рускамоўныя класы. Ёй і прысвоена імя Янкі Купалы.

З магазінамі вялікасельцам не пашанцавала. Большасць з іх падпарадкоўваецца райспажыўтаварыству. А гэта і цэны большыя, чым у гарадскіх, і асартымент бяднейшы. Адносна нядаўна пабудаваны кулінарны камбінат прынцыпова сітуацыю не мяняе – яго кілбасы намнога саступаюць мясакамбінатаўскім. Гаспадыням прыходзіцца з цэнтра цягнуць сумкі з прадуктамі, бо нават хлеб і малако тут купіш не заўсёды.

Галоўнае месца сустрэчы вялікасельцаў – лазня па завулку Лазневым. Уваход 8 тысяч, час неабмежаваны. Таму па–за парыльняй няспешна ідзе размова пра палітыку, цэны, заробкі. Старыя часцяком успамінаюць іншы лад жыцця, калі не існавала 50–кілаграмовых мяхоў пад бульбу. Разлічаныя былі на 100 кг. І дзяды, прадзеды лёгка іх цягалі.

У "мясцовых" дзве вялікія праблемы – рух аўтобусаў і добраўпарадкаванне вуліц. Раён значна вырас, а як быў адзіны маршрут – "пяцёрка", так і застаўся. Сыдзе аўтобус з маршруту – лічы, што на работу спознішся, бо ў наступны можаш і не ўлезці.

Жыхары Маладзёжнай наладзілі перапіску з гарадскімі ўладамі. Нават і подпісы назбіралі, каб вуліцу заасфальтавалі. Аднак няма ў горада сродкаў, і ўвосень без гумовых ботаў лепш сядзець дома. Кур'ёзнасць сітуацыі ў тым, што пачынаецца Вялікае Сяло з аўтапарка №4, а заканчваецца асфальтавым заводам.

У месца жыхарства хапае і пераваг. Пяць хвілін ходу – і ты ў полі дыхаеш чыстым паветрам. Яшчэ праз хвілін 20 – лес. Каму да сэрца мясцовыя краявіды, з'язджаць не хочуць. Тут у шматпавярхоўках прыжыліся многія з раённых кіраўнікоў. Тут жывуць намеснік старшыні райвыканкома **Барыс Бароўскі**, загадчыца аддзела ЗАГС **Ніна Бажко**, галоўны землеўпарадчык **Леанід Жаўняровіч.** Пасяліліся тут добры майстар па дрэве **Валянцін Сысун**, краязнаўца **Міхась Казлоўскі**, галоўны інжынер гармалзавода **Віктар Бараноўскі**, супрацоўнікі ДАІ, падатковай інспекцыі. Часова пасяліўся амерыканец. Прыехаў да сваякоў у госці і з'язджаць не надта ўжо спяшаецца.



ФОТАКАЛАЖ АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА

***Кожны раён горада - сваё жыццё, свае праблемы, мае свае адметнасці. Пра Лясныя ў Маладзечне, Карані ў Смаргоні, Макаўе ў Вілейцы і іншыя мы будзем расказваць на старонках нашага выдання. Калі вы хочаце паведаміць штосьці пра жыццё на вашай вуліцы, у вашым доме, пра цікавых людзей, пішыце на адрас «РГ» з паметкай- «гараджане».***

***Васіль САВІЦКІ.***
***Алеся ДРАГУН.***

